**Кепская мястовая гаспадарка** апошчімі гадамі прыняла вялікіе размеры. Брак будауніцкіх матэрыялау, высокіе цэны на іх і на рабочыя рукі, без прыбатнасьць з нерухомых меньняу зрабілі тое, што большая частка дамоу у Менску прыняла вельмі кепскі выгляд. Многіе сьцены патрэскаліся, у многіх дамох пагніла падлога. Дзядзінцы, ходнікі, дахі—усе памала руйнуецца. Цяпер на акраінах многіе уласьнікі лічаць для сябе болей карысным прадаваць свае дрэуляные будынкі на дровы. Калі гэткае становішчо працягнецца яшчэ год—усе будыніны зробяцца непрыгоднымі. Ужо цяпер есьць сотки дамоу, у каторых жыць нельга. Адзіным ратункам можа быць толькі шырокая дзяржауная падмога, якая выдавалася-б у форме пазычак домауласьнікам на аднауленьне іх меньня. Цяпер у многіх гарадох, у тым ліку і у Менску, паднято пытаньне аб злучэньні домауласьнікау у мястовые і краевые саюзы і організацыі агульнага краевага банку.

**Абмен прадуктау.** У Вільні па загаду магістрата у менскіх складах адбываецца абмен солі й газы, на збажыну. І вось за 1 пуд пшаніцы, жыта альбо ячменя даюць 2 пуды солі або газы, а за пуд, ауса, гароху, грэчкі або льнянога семені выдаюць 1 пуд 30 фунтау солі альбо газы.

Варта было бы уладзіць тое самае і у нас у Менску!

**Цэны на рынках** у панядзелак, 17-га лістапада: хлеб—3 р. 35 к. ф. малако—4 р. кварта, сало—22 р. ф., каубаса—15 р. ф., масла—28 р. ф., бярозавые дровы—260 р. воз, газа—2 р. фунт.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау. Менск.